МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№4 (132)
красавік 2013

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### КРАСАВІЦКАЯ ІМПРЭЗА Ў ТБК ЛІТВЫ

Традыцыйная сустрэча прайшла ў Вільні.

*Працяг на стар. 2*

### ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

У мінулым нумары бюлетэня мы змяшчалі агляд, прысвечаны Дню Волі ў розных краінах свету. Прапануем вашай увазе невялікі працяг гэтага агляду.

*Працяг на стар. 3*

### БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ АДЗНАЧЫЛІ 27-Ю ГАДАВІНУ АВАРЫІ НА ЧАЭС

У беларускім грамадска-рэлігійным Цэнтры Таронта беларусы Канады адзначылі 27-ю гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

*Працяг на стар. 4*

### НЕ ЗАГАСНУЦЬ ЗОРАЧКІ ФЕСТЫВАЛЮ!

Фестываль "Ад Палесся да Сібіры нясіце, буслы, вясну!" прайшоў у Новасібірску.

*Працяг на стар. 6*

НАВІНЫ

## У ВІЛЬНІ АДБЫЛАСЯ V КАНФЕРЭНЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ І ЗАМЕЖЖА

6–7 красавіка 2013 г. у Вільні праходзіла V канферэнцыя беларусаў Балтыі і замежжа, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі Літвы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі і Беларусі. Арганізаваў і правёў канферэнцыю старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька.

Праца канферэнцыі распачалася з прывітальнага слова ад імя арганізатараў, з якім выступілі вядучая Леакадыя Мілаш і старшыня ТБК Хведар Нюнька. Затым была абраная рэдакцыйная камісія, у склад якой увайшлі Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская, Валянцін Голубеў, Радзім Гарэцкі і аўтар гэтых радкоў. Асноўная задача рэдакцыйнай камісіі – выпрацаваць тэксты рэзалюцыі і зваротаў да розных дзяржаўных інстытуцый з тым, каб засведчыць аб праблемах, якія паўсталі перад беларускай нацыяй.

Хведар Нюнька коротка ахарактарызаваў праблемы, якія паўстаюць перад працай Таварыства беларускай культуры. За 25 гадоў працы ёсць чым і пахваліцца. Гэта і прыдбанае ва ўласнасць памяшканне, і зямельны пляц пад пабудову культурна-асветніцкага цэнтра імя Якуба Коласа. Але цяпер перад беларусамі стаіць іншая пагроза: пагражае згуба незалежнасці Беларусі. У краіне пануе антыбеларускі рэжым, які знішчыў усё беларускае, у краіне ёсць палітычныя вязні. Спадар Хведар таксама зазначыў, што масавая асіміляцыя беларусаўназіраецца і ў Літве. З кожным перапісам насельніцтва іх усё менш.

Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская ў сваіх выступах засяродзілі ўвагу на праблемах працы ў беларускай дыяспары ў розных краінах. Сёння зразумела, што калі не будзе весціся ніякая праца з беларускай дыяспарай, яна проста перастануць існаваць.

Валянцін Голубеў выказаў меркаванне, што праблема захавання беларускай нацыі залежыць як ад палітычнай абстаноўкі, так і ад эканамічнай. Зразумела, што афіцыйны Мінск ніколі не падтрымае беларускія суполкі замежжа, якія стаяць пад бел-чырвона-белым сцягам. Але, на жаль, без матэрыяльнай і фінансавай падтрымкі вельмі цяжка падтрымліваць беларускі дух, і трэба штосьці рабіць.




*Адкрыццё канферэнцыі. Злева направа: Хведар Нюнька, Леакадзія Мілаш, Алесь Адамковіч*

Становішчам беларусаў у Эстоніі і Латвіі падзяліліся Зінаіда Клыга і Вячка Целеш.

Зінаіда Клыга адзначыла, што беларусаў у Эстоніі няшмат: 12 тысячаў





ШОСТЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ
23-24 ЛІПЕНЯ 2013 ГОДА
МІНСК

# У Вільні адбылася V канферэнцыя беларусаў Балтыі і замежжа

*Працяг. Пачатак на с.1*

(менш за 1 %). Нягледзячы на гэта, існуе некалькі беларускіх суполак у розных гарадах гэтай краіны. Нават на дзяржаўным радыё маецца беларуская праграма. Сама Зінаіда, нягледзячы на тое, што з маленства была адарваная ад Беларусі, цудоўна валодае беларускай мовай, захавала беларускую душу і вельмі прыгожа і душэўна спявае песні на беларускай мове. Сп. Зінаіда прадстаўляе беларускую арганізацыю Эстоніі БЭЗ (Беларускае Эстонскае Згуртаванне), якая сёлета адзначыла 24-гадавіну сваёй дзейнасці. А сама суполка збольшага трымаецца на старых каранях.

Становішча беларусаў у Латвіі крыху іншае. Аб гэтым распавядаў спадар Вячка Целеш. Там яны сярод нацыянальных меншасцяў на другім месцы. Але існуе вялікая праблема – яны практычна ўсе рускамоўныя. У Рызе працуе беларуская школа, але на жаль, беларускага ў ёй мала. Таксама, у адрозненне ад Літвы, няма ў беларускіх арганізацыях прытоку новых кадраў.

Выступаючы, Уладзімір Арлоў, звярнуў увагу на тое, што ў Вільні трэба захаваць памяць Кастуся Каліноўскага. Сёлета спаўняецца 150 гадоў з пачатку нацыянальна-вызвольнага паўстання на Беларусі і Літве. Вельмі добра было б выправіць памылковую дату на шыльдзе, якая ўсталяваная на месцы пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага. А таксама добрым было б распачаць захады па ўсталяванні памятнай табліцы на меркаваным месцы пахавання К. Каліноўскага.

Міхась Скобла ў часе канферэнцыі прэзентаваў кнігу лістоў і ўспамінаў Зоські Верас "Я помню ўсё". У гэтай кнізе сабраныя не толькі ўспаміны Зоські Верас, але і ўся беларуская гісторыя бурлівага ХХ ст. Як зазначыў сп. Міхась, менавіта Зоську Верас можна лічыць самай велічнай асобай у старонцы віленскіх беларусаў.

У далейшых прамовах, якія ў многім перагукаліся з папярэднімі, гучала занепакоенасць лёсам беларускай нацыі і мовы. Выступалі Радзім Гарэцкі, Генадзь Бураўкін, Юрка Станкевіч, Анатоль Астапенка і інш. У іх словах было спадзяванне на тое, што Беларусь не знікне і будзе жыць далей, беларуская нацыя і яе мова неўміручыя.

Вядомы беларускі рэжысёр Вольга Мікалайчык прэзентавала свае новыя фільмы, якія закранаюць самую балючую старонку найноўшай гісторыі – наяўнасць у краіне палітвязняў.

Другая частка мерапрыемстваў – адзначэнне юбілею паважанага старшыні Таварыства беларускай культуры ў Літве спадара Хведара Нюнькі. Віншуючы юбіляра, многія адзначылі яго вялікі ўклад у захаванне, пашырэнне і прапаганду беларускасці ў Літве. Менавіта стараннямі Хведара Нюнькі ў Вільні ўсталявана больш за дзясятак шыльдаў беларускім дзеячам, была адкрытая і працуе Віленская сярэдняя беларуская школа, Цэнтр беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры на філалагічным факультэце Літоўскага ўніверсітэта эдукалогіі, на віленскіх могілках Росы ўсталяваныя помнікі братам Івану і Антону Луцкевічам, Францішку Аляхновічу.



*Ніна Шыдлоўская і Алена Макоўская віншуюць Хведара Нюньку ад імя Управы МГА «ЗБС «Бацькаўшчына»*

Цікава і тое, што народзіны сп. Нюнькі прыпадаюць на той самы дзень, што і Барыса Кіта, якому споўнілася 103 гады. Удзельнікі юбілею даслалі віншаванне і паважанаму сп. Барысу.

Усе госці на юбілеі жадалі Хведару і надалей заставацца маладым, поўным аптымізму і працаваць далей дзеля пашырэння і захавання беларускасці, якая ўсіх і сабрала ў гэты юбілейны вечар.

На другі дзень працы былі выпрацаваныя і прынятыя тэксты рэзалюцыі і зваротаў у розныя інстытуцыі.

Таксама прагучалі новыя выступленні і адбылося некалькі дыскусій.

Падчас завяршэння канферэнцыі было зазначана, што прыехалі ў Вільню беларусы з розных краінаў, а гэта дало магчымасць бліжэй пазнаёміцца паміж сабой, а таксама распавесці аб агульных праблемах, з якімі сутыкнуліся суродзічы ў розных краінах Еўропы. Было выказана таксама жаданне, каб такія канферэнцыі арганізоўваліся і ў іншых краінах, дзе пражываюць беларусы. Гэта дае магчымасць не толькі сустрэцца беларусам і пазнаёміцца, але таксама засведчыць свету аб сваім існаванні і праблемах, якія паўсталі перад нацыяй.

*Паводле Алеся Адамковіча*
*Фота Паўла Марыніча*
*Фотарэпартаж з канферэнцыі глядзіце на сайце zbsb.by*

# Красавіцкая імпрэза ў ТБК Літвы

Пра дзейнасць у часе нямецкай акупацыі ў Беларусі маладых патрыётаў па арганізацыі і кіраўніцтву Саюза Беларускай Моладзі Янкі Жучкі і Янкі Жамойціна распавёў старшыня Хведар Нюнька. Ён падрабязна спыніўся на пачатку другой сусветнай вайны, асабліва апавядаючы пра наступ немцаў і беспарадачнае адступленне савецкіх войскаў. Адступаючы, салдаты спалілі вёску Алешавічы Шчучынскага раёна. З прыходам немцаў адміністрацыю ў горадзе і паліцыю ўзначалілі мясцовыя палякі. Пацярпела і загінула шмат нявінных беларусаў. З часам, аднак, з Мінска і Ліды сталі прысылаць беларусаў, якія пачалі адчыняць беларускія школы і патроху наладжваць культурнае жыццё ў горадзе і на вёсках.

У большых гарадах стваралі Саюз Беларускай Моладзі, які займаўся выключна культурнай дзейнасцю і ладзіў нацыянальныя святы. Лік сяброў СБМ складаў тысячы чалавек. Такой актыўнай дзейнасцю і займаліся Янка Жучка і Янка Жамойцін. Янка Жучка ўвесь час падтрымліваў шчыльныя кантакты з ТБК Літвы. Жыў у Бельгіі, але на ўсе нашыя значныя імпрэзы прыязджаў і браў актыўны ўдзел. Яго жыццё і дзейнасць шырока апісаныя ў кнізе Янкі Запрудніка "Дванаццатка".

Затым выступіў Алег Аблажэй. Традыцыйна на штомесячных сустрэчах у ТБК вядзецца размова аб праблемах мовы, культуры і гісторыі. На гэты раз Алег Аблажэй прапанаваў пашырыць тэматыку і паразважаць пра лёсы людзей – наколькі праўда, што кожны "каваль свайго лёсу"? Ці ўсё ж існуе для кожнага чалавека нейкі "сцэнар", які выконваецца незалежна ад волі асобы? Бо як інакшай растлумачыць выпадкі трагічных прароцтваў і прадказанняў?

У цэлым усе пагадзіліся з тым, што не трэба абмяжоўвацца вузкаспецыяльнай тэматыкай паведамленняў, а пашыраць кола інтарэсаў, што дазволіць зрабіць сустрэчы больш цікавымі і прывабнымі для шырокіх колаў.

У сувязі з 30 годдзем смерці Ларысы Геніюш (7.04.1983) Леакадзія Мілаш дасдала ў ТБК старонку пра слаўную паэтку і грамадскую дзяячку Ларысу Геніюш.

*Паводле аглядальніка ТБК*

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

*У мінулым нумары бюлетэня мы змяшчалі агляд, прысвечаны Дню Волі ў розных краінах свету. Прапануем вашай увазе невялікі працяг гэтага агляду.*

**Львоў**

25 сакавіка ў Львове прайшоў шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да Дня Волі. Арганізатараў святкавання, сябраў Руху Салідарнасці "Разам", з украінскага боку падтрымалі прадстаўнікі ВО "Свобода" і УНА-УНСО.

Да святочных мерапрыемстваў у Львове з беларускага боку далучыліся паэт, грамадскі дзеяч Славамір Адамовіч, рок-музыка і грамадскі дзеяч Ігар Сімбіроў, намеснік старшыні Беларускага цэнтра ва Украіне "Захад" Віталь Макаранка, брат палітзняволенага Мікалая Статкевіча Аляксандр Статкевіч.

Урачыстае святкаванне распачалося з узняцця бел-чырвона-белых сцягоў ля Львоўскай гарадской рады і шэсця ад гістарычнага цэнтра Львова да Лычакаўскіх могілак, дзе пахаваныя паўстанцы 1863–1964 года, для якіх Львоў стаў калісьці прытулкам ад пераследу ўладаў царскай Расіі.

Удзельнікі мерапрыемстваў усклалі кветкі, запалілі знічкі і прачыталі малітвы ля помніка беларускаму паўстанцу Сымону Шыдлоўскаму і яго паплечнікам.



Затым дэлегацыя крочыла да Львоўскай гарадской рады, дзе адбылася сустрэча з прадстаўнікамі львоўскай мэрыі і сябрамі ўкраінскіх апазіцыйных партый. Ганаровым госцем сустрэчы быў народны герой Украіны Юрый Шухевіч, які прывітаў дэлегацыю з Мінска і пажадаў поспехаў на ніве адраджэння нацыянальнай беларускай культуры, мовы і гісторыі. Напрыканцы сустрэчы Аляксандр Макаеў падзякаваў украінцам за цёплы прыём, падкрэсліўшы, што Дзень Волі ў Львове адбываецца ўпершыню. Завяршылася святкаванне Дня Волі ўскладаннем вянку і прамовамі ля помніка Сцяпану Бандэру.

*Паводле Таццяны Уласенка, «Новы час»*

**Чарнігаў і Кіеў**

24 сакавіка беларуская грамада Чарнігава каля Екацярынінскай царквы з удзелам актывістаў украінскіх грамадскіх арганізацый адзначыла Дзень Волі.

Падчас святкавання гучалі вершы беларускіх паэтаў, гучала слова Божае беларускай мове.

Беларусы заклікалі ўкраінцаў да салідарнасці з імі. Беларусам, якія ў неспрыяльных умовах вядуць зараз барацьбу з прамаскоўскім рэжымам, вельмі важная падтрымка брацкага ўкраінскага народа.

25 сакавіка 2013 года перад пасольствам Беларусі ў Кіеве адбылася акцыя ў памяць беларускага Дня Волі і падтрымкі беларускіх апазіцыянераў і палітвязняў.

У акцыі бралі ўдзел прадстаўнікі беларускай апазіцыі ў Кіеве, украінскіх грамадскіх арганізацый і апазіцыйных партый.

*Паводле pivnich.info і maidanua.org*

**Атава**

6 красавіка 2013 года атаўская мэрыя гасцінна адчыніла дзверы канадскім беларусам, якія сабраліся ў гэты дзень на святкаванне 95-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР.

У гэты суботні вечар сабралася каля 40 чалавек. З прывітальным словам выступіў старшыня атаўскага адзела Згуртавання Беларусаў Канады сп. Пётра Мурзёнак. Ён павіншаваў прысутных і зачытаў Зварот Старшыні Рады БНР сп. Івонкі Сурвіллы.

З віншавальным словам выступіла сп. Валянціна Шаўчэнка, старшыня ЗБК, якая падкрэсліла значнасць ідэі незалежнасці Беларусі, пераважна ў сённяшніх складаных умовах існавання беларускай дзяржаўнасці, калі свабода не ў прыярытэтах дзяржаўнай палітыкі. Таксама сп. Валянціна выказала салідарнасць з беларускімі палітвязнямі.



*Валянціна Шаўчэнка*

Шчыра павіншавала прысутных з нацыянальным святам сп. Івонка Сурвілла. У сваёй прамове яна расказала пра сваю паездку ў Прагу, дзе яна ўдзельнічала ў сустрэчы з беларускімі і чэшскімі палітыкамі, падчас якой абмяркоўваўся сённяшні стан беларускай палітычнай сістэмы. Сп. Івонка падкрэсліла неабходнасць данясення да ўсіх зацікаўленых асоб інфармацыі аб сітуацыі ў Беларусі з мэтай паўплываць на будучыню Беларусі як свабоднай і незалежнай краіны.



*Івонка Сурвілла*

Удзельнікі сустрэчы напісалі дыктоўку, прысвечаную 150-м угодкам паўстання Кастуся Каліноўскага.

Падчас святочнага канцэрту ўдзельнікі сустрэчы з вялікім задавальненнем паслухалі рамансы ў выкананні Валянціны Шаўчэнка, вершы Юрася Шамецькі, музычныя кампазіцыі ў выкананні дуэта "Кантабіле" (Уладзя Шамецька – скрыпка, Міхась Рыкаў – гітара). Завяршылі канцэрт чароўныя танцавальныя пары Ірэны і Уладзіміра Клімковічаў, Агаты Логвін і Аляксея Ціпенкі.



*Агата Логвін і Аляксей Ціпенка*

Святкаванне прайшло ўрачыста і па-сяброўску прыемна.

*Паводле belaruscanada.org*

# БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ АДЗНАЧЫЛІ 27-Ю ГАДАВІНУ АВАРЫІ НА ЧАЭС

У беларускім грамадска-рэлігійным Цэнтры Таронта беларусы Канады адзначылі 27-ю гадавіну аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Старшыня Згуртавання беларусаў Канады Валянціна Шаўчэнка ўзгадала пра вялікую дапамогу, якую аказалі сваёй радзіме эмігранты праз заснаваны Івонкай Сурвіллай, Зінаідай Гімпелевіч і Паўлінай Пашкевіч – Смітс Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобылю. На Беларусь былі адпраўленыя на мільёны даляраў лекі і адзенне, у Канаду штогод на аздараўленне прыязджалі хворыя дзеці. Усім здавалася ў першыя гады пасля аварыі, што "мірны атам" ніколі больш не прыйдзе ў Беларусь.




Але будаўніцтва Астравецкай АЭС паказвае, што сённяшняе кіраўніцтва краіны не зрабіла ніякіх высноваў з гэтай вялізнай трагедыі нашага народа. Пра гэта гаварыў у сваім выступленні фізік-ядзершчык, сустаршыня камітэта "Вучоныя за бяз'ядзерную Беларусь" Ягор Фядзюшын, які трыццаць два гады адпрацаваў у Інстытуце ядзернай энергетыкі ў Соснах. Яго даклад, заснаваны на ўласным вопыце пошукаў і вынаходніцтваў, а затым і адмаўлення перспектываў ядзернай энергетыкі па сучасных тэхналогіях, быў з вялікай цікавасцю заслуханы прысутнымі.

Беларусы Канады неаднаразова выступалі супраць будаўніцтва АЭС на Беларусі. На жаль, да іхняга голасу, як і да голасу ўсіх тых, хто далучаецца да патрабаванняў перапыніць самазабойчыя авантуры з ядзернай энергетыкай, сённяшні ўрад Беларусі не прыслухоўваецца.

*belaruscanada.org*

# АКЦЫЯ СУПРАЦЬ ПРЫМЯНЕННЯ СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ Ў БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛА Ў МАСКВЕ

10 красавіка актывісты Amnesty International зладзілі ў Маскве акцыю супраць прымянення смяротнага пакарання ў Беларусі.

Пікетаванне праходзіла насупраць беларускай амбасады і было прымеркаванае да публікацыі штогадовага дакладу Amnesty International пра сітуацыю са смяротным пакараннем у розных краінах свету.

Актывісты разгарнулі і на працягу гадзіны трымалі 7-метровы транспарант, які заклікае ўлады Беларусі ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне. Афіцыйнай рэакцыі амбасады на акцыю не было.

Паводле звестак Amnesty International, за апошнія дваццаць гадоў у Беларусі было пакарана смерцю больш за 400 чалавек. Ёсць падставы меркаваць, што асуджаных на смяротнае пакаранне змушалі прызнаць сваю віну пад катаваннямі.




Прысуды прыводзяцца ў выкананне стрэлам у патыліцу. Асуджаных інфармуюць пра пакаранне смерцю за некалькі гадзін або хвілін да выканання прысуду. Целы пакараных не вяртаюцца сем'ям для пахавання, месца пахавання захоўваецца ў таямніцы.

*"Наша Ніва"*

# ВЫСТАВА НАРОДНЫХ КАСЦЮМАЎ БЕЛАРУСАЎ ПАДЛЯШША Ў СТУДЗІВОДАХ

У красавіку ў Музеі Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах адкрылася выстава аўтэнтычных народных касцюмаў беларусаў Падляшша. Паводле дырэктара музея Дарафея Фіёніка, у калекцыі ёсць арыгінальныя касцюмы і дакладныя копіі касцюмаў з Плёскаў, Відава, Аўгустова – кожны ў адзіным экземпляры ва ўсім свеце. "Няма больш такой сарочкі ці сарафана, бо майстэрства рук жанчыны, якая жыла 100–150 гадоў таму, непаўторнае", – гаворыць спадар Фіёнік.



Выстава народных касцюмаў беларусаў Падляшша з'яўляецца пачаткам міжнароднага палеска-падляшскага фестывалю веснавога фальклору "Там по маёвуй росі", які сёлета адбываецца дзясяты раз.

*Паводле Наталлі Герасімюк, "Беларускае Радыё Рацыя"*

*Фота аўтара*

# ПРЭМ'ЕРА "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ" У ВАРШАВЕ

У кінатэатры "Кінатэка" 17 красавіка адбылася ўрачыстая прэм'ера фільма рэжысёра Кшыштафа Лукашэвіча "Жыве Беларусь".

Фільм апавядае гісторыю маладога рок-музыкі Мірона, якога сыграў беларускі рэпер Вінсэнт. Героя сілай забіраюць у войска, дзе пачынаецца яго пераслед, а ён у сваю чаргу змагаецца з праявамі штодзённага таталітарызму. Асновай для напісання сцэнару стала сапраўдная гісторыя апазіцыйнага дзеяча Франка Вячоркі, які выступіў суаўтарам сцэнару.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## У МАЛДОВЕ ГУКАЛІ ВЯСНУ

Спакон вякоў прыход вясны абуджае светлыя і радасныя пачуцці нават у самым счарсцвелым чалавеку. Жывучы ў сонечнай Малдове, мы радуемся гэтай чароўнай пары года і яе цяплу звычайна крыху раней, чым нашыя суайчыннікі ў Беларусі. Але сёлета і ў нас зіма зацягнулася неяк на асабліва доўгі тэрмін. І мы з дзеткамі беларускага нядзельнага класа, памятаючы старадаўнюю беларускую традыцыю, задумалі паспрабаваць грунтоўна пагукаць вясну ў Кішынёў.



Мае маленькія беларускія вучні вельмі адказна ўзяліся за працу, паколькі падрыхтоўчых справаў да гэтага прыгожага беларускага абраду было вялікае мноства. Вывучылі ролі, песні-вяснянкі і тэматычныя вершы па-беларуску. Пад аўтэнтычную беларускую музыку ўсе разам развучылі абрадавыя карагоды ды танцы, у больш сучасным удасканаленні якіх удзельнічалі самі дзеці. У нас з'явілася амаль што сакральнае гукальнае дрэва, упрыгожаныя абрадавыя галінкі вярбы, мноства птушачак-сувеніраў, выдатныя касцюмы і, вядома ж, бясцэнны вопыт.

Гледачамі нашага спектакля-абраду "Гуканне вясны" ў Дэпартаменце міжэтнічных адносін сталі шматлікія члены Беларускай абшчыны ў Малдове, супрацоўнікі беларускага Пасольства ў Кішынёве, прадстаўнікі Бюро міжэтнічных адносін Малдовы, а таксама сябры з рускай, украінскай, эстонскай, грузінскай і іншых суполак і этнакультурных арганізацый, якія дзейнічаюць у рэспубліцы.

Было відавочна, што наш спектакль-абрад "Гуканне вясны" даставіў прысутным шмат пазітыўных эмоцый. Усе вучні беларускай нядзельнай школы атрымалі ганаровыя граматы, падарункі і пачастункі ад Савета Беларускай абшчыны Малдовы, падзяку Пасольства Беларусі і безліч прыемных цёплых словаў ад гасцей нашага свята.

*Паводле Ганны Мазур-Вайняровіч*

## ВЫСТАВА ВЯЧАСЛАВА ІГНАЦЕНКІ "ЗЯМЛЯ І НЕБА"

28 сакавіка ў адным з найстарэйшых музеяў Малдовы – Нацыянальным музеі прыроды і этнаграфіі – адбылося адкрыццё прыгожага вернісажу "Зямля і неба". Аўтар прадстаўленых на ім работ – беларускі мастак Вячаслаў Ігнаценка.

Гасцямі на ўрачыстым адкрыцці выставы былі прадстаўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Малдова, кіраўнікі і члены беларускай, расійскай, украінскай, балгарскай і прыднястроўскай абшчын, вядомыя дзеячы мастацтва Малдовы, Расіі і Украіны, кіраўніцтва і супрацоўнікі Нацыянальнага музея прыроды і этнаграфіі, творчая інтэлігенцыя, а таксама шматлікія прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі.

Кожная персанальная выстава Вячаслава Ігнаценкі – яркая падзея ў культурным жыцці Кішынёва. Асаблівасць трыццаць пятага юбілейнага вернісажу – выдатная метафарычнасць, бо прымеркаваны ён да Міжнароднага дня птушак. Птушкі, як і сапраўднае мастацтва, былі і ёсць своеасаблівым пасрэднікам паміж тленным светам людзей і найвышэйшым духоўным аб-



салютам.

Класічныя пейзажы Вячаслава Ігнаценкі ў іх досыць вялікай колькасці (57 прац) гарманічна глядзеліся на сценах Нацыянальнага музея прыроды і этнаграфіі.

Прыгожым дадаткам да цудоўных краявідаў майстра, які заінтрыгаваў шматлікіх гасцей, стала інсталяцыя вернісажу "Зямля і неба". Яна была прадстаўлена гучнымі галасамі беларускіх птушак і папяровымі птушачкамі – вырабамі маленькіх вучняў мастака. Дзеткі беларускай нядзельнай школы ад трох да васьмі гадоў спецыяльна для выставы іх настаўніка Вячаслава Ігнаценкі стварылі сваімі рукамі маленькіх жаўрукоў – першых птушак вясны, якія ў беларускай язычніцкай міфалогіі прыносяць у сваіх дзюбах ключы ад вясны.

*Паводле Ю.Статкевіча*

ВІНШАВАННІ

## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў траўні:

**Аляксея Караля**, **Барыса Стука** (Беларусь), **Алега Латышонка** (Польшча), **Алену Міхалюк** (Англія), **Вітаўта Кіпеля** (ЗША), **Алену Ліс** (Бельгія) і **Юрася Юркевіча** (Літва). Зычым бадзёрага настрою, добрага здароўя, нязгаснага аптымізму і натхнення!



25 траўня юбілей святкуе сябра Вялікай Рады **Павел Мажэйка** (Беларусь).

Шчыра віншуем шаноўнага юбіляра са святам і зычым радасці і святла на сэрцы, дабрабыту, шчасця і ўсяго самага найлепшага!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## КАНЦЭРТ "САЛІДАРНЫЯ З БЕЛАРУССЮ" Ў ВАРШАВЕ

Бел-чырвона-белыя сцягі, атмасфера свабоды і музыка. Так прайшоў канцэрт "Салідарныя з Беларуссю". На Кракаўскім прадмесці ў Варшаве на адной сцэне выступілі музыкі з Польшчы і Беларусі. "DZIECIUKI", "Крамбамбуля" ды польскія гурты "Izrael", "Muniek Staszczyk" і "Strachy na lachy".

Апрача канцэртаў была праведзеная сустрэча са сцэнарыстам і акторам фільма "Жыве Беларусь", вучнямі Коласаўскага ліцэя і жонкамі палітвязняў. Выступілі таксама са словамі падтрымкі польскія палітыкі і грамадскія дзеячы, якія былі звязаныя з апазіцыяй у час Польскай Народнай Рэспублікі.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*

## НЕ ЗАГАСНУЦЬ ЗОРАЧКІ ФЕСТЫВАЛЮ

"Куды б ні закінуў чалавека лёс, ён прагне размаўляць на роднай мове, спяваць знаёмыя з дзяцінства песні, слухаць любімыя мелодыі. І ваш фэст ужо шмат гадоў служыць святам сустрэчы сяброў, землякоў, добрых і чулых людзей, якія шануюць беларускую культуру". Кожны раз, калі на адкрыцці фестывалю дырэктар НЦБК Ніна Васільеўна Кабанава зачытвае прывітанні – ад Міністэрства культуры Новасібірскай вобласці, іншых інстанцый, – яна заўважна хвалюецца. Але асабліва калі чытае віншаванні з роднай Беларусі: ад Міністэрства культуры, Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур. Хоць словы і афіцыйныя, але яны – на роднай мове, адтуль, з гістарычнай Радзімы. І там




таксама ведаюць пра традыцыйнае свята "Ад Палесся да Сібіры нясіце, буслы, вясну!". Ведаюць і многіх яго ўдзельнікаў, якія не раз пабывалі ў Беларусі. Дзякуючы гэтаму для юных сібіракоў і Палессе, і буслы ўжо не проста сімвалы, а паняцці блізкія і родныя.

І тое, што іх ахрысцілі буслянятамі, даўно стала прадметам гонару, тым больш што сёлета зляцеліся яны на свята ўжо ў сёмы раз. Больш за дзвесце ўдзельнікаў сабралася на традыцыйнае вясновае свята. Многіх з іх гледачы сустракалі як добрых знаёмых.

Прыемным сюрпрызам фестывалю стала выступленне дзіцячай тэатральнай студыі "Калейдаскоп" школы мастацтваў Кастрычніцкага раёна. Запрошаныя ў якасці гасцей, яны з бляскам выканалі хвацкі казацкі танец. Цёплы прыём гледачоў выклікаў у юных "казакоў" жаданне надалей стаць паўнапраўнымі ўдзельнікамі свята.

Хочацца адзначыць асаблівасць цяперашняга фестывалю: усе песні гучалі на беларускай мове, а гэта ўжо заслуга мастацкіх кіраўнікоў. З'явілася і новая намінацыя – інструментальнае выканальніцтва, так што фестываль набірае сілу.

Гучала на святце і беларуская паэзія. Думаецца, што мастацкае слова таксама можа стаць яшчэ адной намінацыяй фестывалю.

У дні фестывалю ў Акадэмгарадку прайшоў традыцыйны семінар сумесна з навукоўцамі з Беларусі. Пасля абмеркавання навуковых праблемаў у Доме вучоных адбыўся канцэрт з удзелам калектываў НЦБК.

Думаецца, цалкам абгрунтавана ў прывітанні вясноваму фестывалю з Беларусі прагучала шчырая падзяка гаспадарам і арганізатарам свята, "чыімі высілкамі і гасціннасцю Новасібірск набыў трывалы статус унікальнага цэнтра прапаганды беларускай культуры ў Сібіры. А фестываль стаў пуцяводнай зорачкай для ўсіх суайчыннікаў".

*Паводле Людмілы Бляяўскай*

## У ІТБК АБРАНЫ НОВЫ СТАРШЫНЯ

Заснавальніка і шматгадовага кіраўніка Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова на пасадзе старшыні змяніла Алена Сіпакова. Алег Рудакоў, які амаль 17 год узначальваў таварыства, адзначыў: "Я заўсёды марыў, каб у нашым таварыстве знайшліся пераемнікі, якія будуць развіваць арганізацыю далей. Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага (ІТБК) перарасло ў актыўную, дзейсную, самастойную арганізацыю, у якой шмат актыўных і цікавых лідараў, якім трэба даць магчымасць праявіць сябе. Па сваіх поглядах я – дэмакратычны чалавек. Нельга аднаму чалавеку доўга знаходзіцца на адной пасадзе, нават на грамадскай. Для развіцця патрэбны нейкія змены, рух наперад".

Алег Рудакоў падкрэсліў, што сыход з пасады старшыні таварыства не азначае адыходу ад справаў. Ён збіраецца актыўна займацца навуковай працай.

Новай старшынёй да красавіка 2015 года абраная Алена Сіпакова. Яна зазначае: "Арыентыры засталіся такімі ж, якімі былі пры старшынстве Алега Рудакова. Будзем максімальна папулярызаваць беларускую культуру ў Прыбайкаллі. Ёсць ідэя заснаваць міжнародны фестываль беларускай культуры на Байкале, каб надаць моцы і сілы беларускаму руху ва ўсім свеце".

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## "КРЫВІЦКІ АПОКРЫФ" СЯРГЕЯ КАВАЛЁВА

Бібліятэка беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" папаўняецца першай кнігай драматургіі. Неўзабаве ў гэтай кніжнай серыі пабачыць свет драматургічны зборнік пісьменніка, прафесара Люблінскага ўніверсітэта імя Марыі Кюры-Складоўскай Сяргея Кавалёва.

"Так атрымалася, што ў гэтай кніжцы шмат тэкстаў, якія прайшлі праз "Тэрмапілы" і, адпаведна, напісаныя ў Польшчы, – кажа аўтар. – У кнізе надрукавана пасляслоўе Беаты Сівэк на польскай мове, а самі тэксты – на беларускай. "Крывіцкі апокрыф" называецца паводле першай п'есы. У гэтай бібліятэцы проста ніколі раней не было драматургіі. Паколькі я жыву ў Польшчы больш за 20 гадоў, то гэта ў нечым і заканамерна".

Як пісьменнік Сяргей Кавалёў пачынаў свой творчы шлях з вершаў і казак. У свой час быў адным з кіраўнікоў Таварыства маладых літаратараў "Тутэйшыя". На пачатку 90-х гадоў зацікавіўся тэатрам, распрацаваў жанр герменеўтычнай драматургіі. Аўтар шматлікіх драматургічных твораў. П'есы Сяргея Кавалёва ставіліся ў Беларусі, Расіі, Украіне, Польшчы, Чэхіі і Славакіі.

*Васіль Кроква, "Беларускае Радыё Рацыя"*

АБВЕСТКА

## ТБМ ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

Улады павысілі арэндную плату за сядзібу Таварыства беларускай мовы на 60 працэнтаў і дасягнуў 9 мільёнаў 801 тысяча 600 руб. на месяц.

Сакратарыят ТБМ выступіў з заклікам:

"Для таго, каб утрымаць сядзібу арганізацыі ў Мінску ў гэтых умовах, нам неабходна штомесяц збіраць 10 мільёнаў беларускіх рублёў у выглядзе ахвяраванняў і складак сяброў і прыхільнікаў ТБМ. Калі пяць тысяч прыхільнікаў роднай мовы ахвяруюць штомесяц усяго дзве тысячы рублёў, наша арганізацыя не загіне і ў каторы раз прадэманструе сённяшняй уладзе сваю годнасць".

Рахунак ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" № 3015741233011 ў аддз. № 539 ААТ "Белінвестбанка", код 739.

*Паводле "Радыё Свабода"*

# МІХАСЬ БАЯРОЎСКІ (1924-2013)



5-га красавіка ў Бірмінгеме (Вялікабрытанія) ва ўзросце 88 гадоў памёр адзін з найстарэйшых дзеячоў паваеннай беларускай эміграцыі Міхась Баяроўскі.

Міхась Баяроўскі нарадзіўся на Наваградчыне ў 1924 годзе, падчас вайны быў студэнтам беларускай Навагрудскай настаўніцкай семінарыі, пасля курсантам беларускай афіцэрскай школы БКА ў Мінску. Пакінуўшы Беларусь, ён неўзабаве далучыўся да антынацысцкага рэзістансу ў Францыі, скончыў вайну ў складзе 2-га корпусу генерала Андэрса; адразу пасля вайны пасяліўся ў Англіі, дзе заставаўся на працягу доўгага часу адным з найактыўнейшых сяброў Згуртавання Беларусаў у Вялікабрытаніі, кіраўніком аддзела арганізацыі ў Бірмінгеме.

Паводле брытанскіх беларусаў, нягледзячы на сталы век і слабае здароўе, Міхась Баяроўскі да самых апошніх гадоў заставаўся актыўным дзеячом брытанскага беларускага грамадскага жыцця, а таксама жыцця Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, карыстаўся агульнай пашанай і пакінуў па сабе светлую памяць.

*"Радыё Свабода"*
*Фота - hardzin.livejournal.com*




*Злева направа: Міхась Булыга, Браніслаў Курага-Скрага, Францішак Бартуль, а. Часлаў Сіповіч, Аляксандр Надсан, Павал Асіповіч, Павал Навара, Янка Мазура, Міхась Баяроўскі. Лондан. 1952 год.*
*Фота - svaboda.by*

**Міхась Баяроўскі падтрымліваў дзейнасць Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" і выданне бюлетэня "Беларусы ў свеце". Смуткуем з нагоды смерці гэтага выдатнага чалавека і выказваем шчырыя спачуванні ўсім яго блізкім і тым, хто яго ведаў. Вечная памяць!**

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ (1923-2013)



Пайшоў з жыцця Георгі Валкавыцкі – заснавальнік і шматгадовы галоўны рэдактар тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва". Ён памёр у нядзелю, 7-га красавіка, ва ўзросце 90 гадоў.

Георгі Валкавыцкі нарадзіўся ў Белавежы ў 1923 годзе. У 1956 годзе заснаваў тыднёвік "Ніва", якім кіраваў больш за 30 гадоў. Аўтар зборніка лірыкі "Рознагоддзе" і кніжкі сатырычных вершаў "Макатразмы", а таксама некалькіх празаічных кнігаў.

Кажа цяперашні галоўны рэдактар "Нівы" Яўген Вапа: "Георгі Валкавыцкі – шматгадовы рэдактар "Нівы". Гэта сапраўдны валун у галіне пісьменства, у галіне беларускай журналістыкі на Беласточчыне. Гэта ён стварыў тыднёвік "Ніва", паказаў, што гэты тыднёвік можа быць цікавы і карысны. А самае галоўнае – беларускае слова вывеў на шырокую прастору роднай мовы, прыгожага літаратурнага пісьменства. Калі была "жалезная заслона", ён супрацоўнічаў і друкаваў менавіта аўтараў з Беларусі. Ён ламаў гэтую завесу пры дапамозе беларускага слова. Вопытны, сардэчны, цёплы чалавек, 90-гадовы юбілей якога мы нядаўна святкавалі. Ён адзін з тых белавежскіх дубоў, які зараз памаленьку адышоў у спакой".

"Гэта быў чалавек-інстытуцыя, які трымаў на сабе шмат якія справы беларусаў Падляшша, але пры гэтым сам заставаўся ў цяню", – кажа пра Георгія Валкавыцкага шматгадовы карэспандэнт тыднёвіка "Ніва" Ян Мордань.

Георгія Валкавыцкага пахавалі 10 красавіка на праваслаўных могілках у Белавежы. У апошні шлях пісьменніка і рэдактара правялі яго родныя, блізкія і шматлікія сябры.

*Паводле "Беларускага Радыё Рацыя"*
*Фота тыднёвіка беларусаў у Польшчы "Ніва"*

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным, блізкім і калегам Георгія Валкавыцкага, а таксама ўсім, хто яго ведаў. Рай светлы яго душы!**

## «КРАІНА БЕЛАРУСЬ» ВЫЙШЛА ПА-АНГЛІЙСКУ І ПА-РАСЕЙСКУ




У славацкім выдавецтве Kalligram (Браціслава) выйшаў у свет англійскі пераклад папулярнай кнігі Уладзіміра Арлова і Змітра Герасімовіча "Краіна Беларусь" — "This country called Belarus. An illustrated history".

Аўтар перакладу і ўступнага слова да англамоўных чытачоў — брытанскі беларусіст прафесар Джым Дынглі. Ідэя гэтага выдання з'явілася даўно, але набыла рэальныя абрысы, калі ёю натхнілася грамадская дзяячка Вольга Стужынская.

Гісторыя Беларусі разглядаецца ў кнізе як частка агульнаеўрапейскага развіцця цывілізацыі. Тэкст суправаджаюць каля дзвюх тысяч ілюстрацый. Гэта першае англамоўнае выданне такога кшталту, прысвечанае гісторыі Беларусі і створанае беларускімі аўтарамі.

Адначасова тое самае славацкае выдавецтва выпусціла рускамоўны пераклад "Краіны Беларусі".

Кнігавыдаўцы мяркуюць, што пераклады кнігі "Краіна Беларусь" не толькі зацікавяць замежных вучоных і дыпламатаў, прадпрымальнікаў і турыстаў, але і значна павялічаць колькасць сяброў нашай краіны.

*Паводле "Нашай Нівы"*

## ПАДАРУНАК ТЭАТРУ ЯНКІ КУПАЛЫ АД БЕЛАРУСАЎ ПЕЦЯРБУРГА

Партрэт ад беларусаў Пецярбурга перададзены ў дар тэатру Янкі Купалы ў дзень яго адкрыцця пасля рэстаўрацыі. Цырымонія перадачы адбылася пасля спектакля "Паўлінка". На сцэне тэатра пасля выступу міністра культуры Аляксандр Антонавіч Станкевіч і Віталь Іванавіч Аляшкевіч перадалі партрэт дырэктару тэатра Паўлу Іванавічу Палякову.



Партрэт вялікай актрысы Беларусі Стэфаніі Міхайлаўны Станюты быў напісаны пецярбургскім мастаком Сяргеем Вітальевічам Ткачэнкам у 1994 годзе. Стэфанія Міхайлаўна пазіравала ў тэатры ў сваёй грымёрнай.

Мы звярнулі ўвагу на партрэт у Цэнтральнай выставачнай зале "Манеж", дзе ён экспанаваўся на юбілейнай выставе Санкт-Пецярбургскага Саюза мастакоў. Прыцягальны вобраз мадэлі, яе высакародныя рысы, тонкі каларыт палатна спынялі гледача. Трэба сказаць, што не толькі беларусам горада на Няве, але і карэнным пецябруржцам імя вялікай актрысы добра вядома.

*Паводле Аляксандра Станкевіча*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ТРАВЕНЬ 2013 ГОДА

8 траўня – 130 гадоў таму ў в. Данілаўка (цяпер Светлагорскі р-н) нарадзіўся Сцяпан Некрашэвіч (1883–1937), мовазнавец, грамадскі дзеяч.

9 траўня – 60 гадоў таму, у 1953-м, у Мінску выйшаў першы нумар літаратурнага часопіса "Маладосць".

10 траўня – 130 гадоў таму ў Лібава (цяпер Ліепая, Латвія) нарадзіўся Янка Маўр (сапр. Фёдараў Іван; 1883–1971), пісьменнік, перакладчык, адзін з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры.

10 (ці 20) траўня – 145 гадоў таму ў в. Прымагілле (цяпер Дзяржынскі р-н) памёр Карусь Каганец (сапр. Казімір Кастравіцкі; 1868–1918), паэт, пісьменнік, перакладчык, мастак, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху. Пахаваны ў в. Навасёлкі (цяпер Дзяржынскі р-н).

21 траўня – 115 гадоў таму ў Леньцах (цяпер Беластоцкі пав. Падляшскага ваяв., Польшча) нарадзіўся Кастусь Кіслы (1898–1980), музыкант, кампазітар, дырыжор, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі і ЗША.

21 траўня – 30 гадоў таму, у 1983-м, памёр мітрапаліт Андрэй (Аляксандр Крыт), рэлігійны і грамадскі дзеяч, педагог, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Вялікабрытаніі і ЗША. Пахаваны на беларускіх могілках у Гайленд-Парку (Нью-Ёрк, ЗША).

23 траўня – 90 гадоў таму, у 1923-м, нарадзіўся Міхась Ганько (в. Калядзіна Маладзечанскага пав.), палітычны і грамадска-культурны дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Канадзе.

23 траўня – 40 гадоў таму памёр Мікалай Каранеўскі (1910–1973), інжынер, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі. Пахаваны на беларуска-ўкраінскай частцы могілак Роквуд у Сіднеі (Аўстралія).

25 траўня – 145 гадоў таму ў Ваўкавыску Нарадзіўся Давід Яноўскі (1868–1927), адзін з наймацнейшых шахматыстаў свету кан. XIX – пач. XX ст., які з 23 гадоў жыў у Францыі.

25 траўня – 45 гадоў таму памёр генерал Франц Кушаль (1895–1968), вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

28 траўня – 95 гадоў таму ў мяст. Гарадзея (цяпер Нясвіжскі р-н) нарадзіўся Канстанцін Маскалік (1918–2010), грэка-каталіцкі святар, супрацоўнік Беларускай секцыі Ватыканскага радыё.

29 траўня – 80 гадоў таму ў в. Кабылянка (цяпер Беластоцкі пав., Польшча) нарадзіўся Мікола Гайдук (1933–1998), пісьменнік, публіцыст.

29 траўня – 20 гадоў таму, у 1993-м, у Мінску пачаўся III з'езд Беларускага Народнага Фронту (доўжыўся тры дні), створана партыя Беларускі Народны Фронт "Адраджэнне".

**Беларусы ў свеце**
№4(132), красавік 2013

Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына". Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – А. Башарымава
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27